## ШЛЯХАМІ БРАТЭРСТВА



Добры ўраджай абяцае быць сёлета на Віцебшчыне. Удзельнікі Тыдня рускай літаратуры на Беларусі пераканаліся ў гэтым. Хіба ж маглі яны не сфатаграфавацца разам з тымі, хто сваімі рукамі вырошчвае такую кукурузу!.. Гэты здымак зроблены ў калгасе «17 верасня» Глыбоцкага раёна, дзе старшынёй таварыш Пугаўка. Добры ўспамін застанецца аб сустрэчы...

**ГЕРОІ нашых дзён**

# НАСТАЎНІК МОЛАДЗІ

Сходы тут заўсёды праходзяць цікава. Старшыні не даводзіцца прымушаць людзей выступаць. Рамонтнікі, выкрываючы недахопы ў арганізацыі працы, гавораць пра шафёраў, якія нядобрасумленна даглядаюць аўтамабілі. Не маўчаць і вадзіцелі. Яны патрабуюць, каб слесары хутчэй і лепш рамантавалі аўтамашыны. Як правіла, на сходах гавораць аб справах, звязаных з вытворчасцю, са спаборніцтвам.

Але аднойчы Сямён Арцёмавіч Чыстабаеў загаварыў аб выхаванні.

— Калектыў — галоўны выхавацель, калектыў адказвае за лёс чалавека, — пачаў ён свае выступленне.

— Можа і я выхавацель? — запытаў адзін з прысутных у зале.

Гэта быў добры слесар. Працаваў чалавек у брыгадзе, не адной сотні машын вярнулі жыццё яго залатыя рукі. А прызначылі брыгадзірам, і ён разгубіўся.

Паглядзеў Чыстабаеў у бок таварыша і адказаў:

— На жаль, пакуль яшчэ не, а павінен быць. Моладзь табе даручана. Яе трэба вучыць працаваць і жыць па-камуністычнаму, а ты сам палітычную вучобу закінуў, ніводнай газеты не выпісаў... Бры-га-дзір.

З дня, калі адбыўся гэты сход, мінула некалькі год, але рамонтнікі віцебскай аўтабазы № 1 памятаюць выступленне Сямёна Арцёмавіча. З таго часу яго па-сяброўску называюць выхавацелем.

Рыжаватыя валасы, твар у вяснушках, лоб прарэзаны зморшчынкай, разумныя, крыху прыжмураныя вочы і трыццаць год жыцця за плячыма — такі партрэт Сямёна Чыстабаева — брыгадзіра рамонтнікаў аўтамабіляў. Здаецца, ён нічым не вылучаецца сярод сваіх таварышаў па рабоце. Своечасова прыходзіць у свае майстэрні, як і ўсе, рамантуе машыны, вечарамі бывае на сходах, ходзіць з жонкай у кіно, тэатр... Але даволі пабыць у аўтагаспадарцы некалькі дзён, каб упэўніцца, што гэтым далёка не абмяжоўваецца кола інтарэсаў брыгадзіра.

Рабочыя аўтабазы выбралі Чыстабаева членам мясцовага камітэта. Ён і да гэтага прымаў актыўны ўдзел у прафсаюзнай рабоце. Правяраў па даручэнню старшыні мясцкома вусныя скаргі і пісьмы рабочых. Сямён Арцёмавіч вельмі прынцыпова вырашаў усе пытанні, сур'ёзна ставіўся да кожнага даручэння.

У мясцовым камітэце яму даручылі адказваць за сектар працы і зарплаты. Даведаўся пра гэта тагачасны дырэктар аўтабазы і схапіўся за галаву. Ну, маўляў, спакою не дасць. Гэта было сказана даволі трапна. Ні адзін выпадак парушэння працоўнай дысцыпліны ці дрэннай арганізацыі працы не абыходзіўся цяпер без таго, каб не ўмяшаўся Чыстабаеў.

Аднойчы ў абедзенны перапынак качагар базы звярнуўся да Чыстабаева. Яму няправільна налічылі заробленыя грошы. Пайшоў член мясцовага камітэта да тагачаснага дырэктара.

— Налічана правільна! Бухгалтары не памыляюцца, — безапеляцыйна заявіў той.

— Праверым,—адказаў Чыстабаеў, і праз некалькі дзён ён дакладваў на мясцовым камітэце аб сваіх вывадах. Яны разыходзіліся з думкай дырэктара. І Сямён Арцёмавіч дабіўся правільнага вырашэння пытання.

У брыгадзе Чыстабаева 14 чалавек. Усе яны — яго выхаванцы. У мінулым годзе Аляксандр Літвінчук і Фёдар Вінаходаў вучыліся ў аўташколе. Вытворчую практыку хлопцы праходзілі ў брыгадзе Чыстабаева. Прайшоў час. Здадзены экзамены, і юнакі прыйшлі ў аўтабазу № 1. Дырэктар задаволіў іх просьбу і накіраваў у брыгаду Чыстабаева. Тут было чаму павучыцца. Брыгада давала па паўтары нормы за змену, скарачаўся час прастою аўтамабіляў у рамонце, і якасць работы была, як правіла, выдатнай.

Трэці малады рабочы — Віктар Антонаў трапіў у другую брыгаду.

У дзень, калі яны атрымалі першыя ў жыцці заробленыя грошы, да Чыстабаева падышоў адзін з юнакоў.

— Можа, мы, дзядзька Сямён, пойдзем адзначым першы заробак?

Чыстабаеў паглядзеў на маладога рабочага, прыжмурыў вочы. «Цікава, цікава, што яны задумалі?» — падумаў брыгадзір і адказаў:

— Згодзен. Пойдзем... Толькі я на хвіліну забягу ў кантору.

Утрох яны выйшлі на вуліцу. Брыгадзір, член мясцовага камітэта, вопытны рабочы і юнакі, што толькі-толькі ўступілі ў жыццё. Ля аднаго з магазінаў затрымаліся. У вітрыне стаялі бутэлькі з каньяком, гарэлкай, лікёрам...

Сямён Арцёмавіч узяў юнакоў за локці і падштурхнуў наперад.

— Дома ўсё падрыхтавана...

На кватэры Чыстабаева сапраўды ўсё было гатова. Ён паспеў папярэдзіць жонку аб прыходзе гасцей. На стале стаяла бутэлька партвейну, яешня, катлеты...

— Калі ласка, — запрасіў юнакоў брыгадзір.

Селі. Гаспадар наліў у чаркі віно.

— За нашу рабочую годнасць. За тое, каб вы сталі сапраўднымі людзьмі, — прапанаваў ён тост.

Потым брыгадзір пацікавіўся далейшымі планамі ў жыцці юнакоў, запытаў, што збіраюцца яны купіць на першую зарплату. Выслухаў іх, а сам параіў:

— Бацькам падарункі купіць трэба.

Брыгадзір быў задаволены маладымі рабочымі. На дошцы паказчыкаў насупраць іх прозвішчаў стаялі даволі высокія лічбы. Па яго парадзе хлопцы паступілі ў школу рабочай моладзі.

Часта да рабочага месца, дзе працаваў Чыстабаеў і яго маладыя сябры, падыходзіў Віктар Антонаў. Працаваў ён у суседняй брыгадзе. Падыдзе, паглядзіць, як хутка і зладжана вядзецца рамонт аўтамабіля, і пойдзе.

Здарылася аднойчы непрыемная гісторыя. Віктар некалькі дзён не выходзіў на работу. І вось на дошцы загад: зволіць з аўтабазы за прагул. Некалькі дзён хлопец не працаваў, а пасля падышоў да Чыстабаева.

— Сямён Арцёмавіч, я хачу працаваць, — юнак стаяў, патупіўшы вочы і, хвалюючыся, круціў гузік пінжака. — Вазьміце да сябе ў брыгаду...

Віктар расказаў Чыстабаеву, што дома захварэла маці, што трэба было дапамагчы па гаспадарчых справах. Прасіў, каб далі некалькі дзён у лік будучага адпачынку, але майстар адмовіў. І вось паехаў сам, без дазволу.

Праз гадзіну Чыстабаеў зайшоў да дырэктара. Быў тут і брыгадзір, у якога працаваў Віктар. Прывітаўся Чыстабаеў і адразу, без прадмоў, сказаў:

— Накіруйце да мяне ў брыгаду Антонава.

— Табе больш за ўсіх трэба!— нядобразычліва кінуў брыгадзір суседняга ўчастка.

Добрыя вочы Чыстабаева зрабіліся строгімі, калючымі.

— За ўсіх — не, а за цябе — пэўна. І, дарэчы, — Чыстабаеў выцягнуў з кішэні пачак папярос, не спяшаючыся, закурыў і закончыў сваю думку: — Табе было калі 17 год? А юнаку 17. Спатыкнуўся, а ты яго адразу з брыгады на вуліцу. Хай сабе ідзе...

А потым звярнуўся да дырэктара:

— Як член мясцовага камітэта лічу, што звальняць хлопца нельга, а як брыгадзір настойліва прашу накіраваць у маю брыгаду.

Сказаў і сеў, чакаючы, што вырашыць дырэктар. Спрачаліся доўга, але Чыстабаеў настояў на сваім. На наступны дзень Антонаў пачаў працаваць у яго брыгадзе.

Мінуў тыдзень, другі, трэці. Увесь гэты час Чыстабаеў уважліва сачыў за работай Антонава. Юнак стараўся.

Здавалася, што і брыгадзір, і малады рабочы трымаюць экзамен: адзін — на ўменне працаваць з людзьмі, другі—на сумленныя адносіны да сваіх абавязкаў.

Далі неяк у канцы змены брыгадзе тэрміновае заданне. Адзін з аўтамабіляў павінен быў працаваць ноччу на вывазцы будаўнічых матэрыялаў, а матор падвёў. Патрабаваўся тэрміновы рамонт. Чыстабаеў сабраў брыгаду і расказаў аб неадкладным заданні.

— Я не магу застацца,—сказаў Віктар і пайшоў з варот.

Пачуўшы гэтую гутарку, брыгадзір, у якога некалі працаваў малады рабочы, смеючыся, сказаў:

— Узяў на сваю галаву ліха такое...

Слесары спяшаліся хутчэй адрамантаваць машыну, адчуваўся недахоп рабочых рук. Усім было цяжка і крыўдна за ўчынак таварыша. А брыгадзір увесь час думаў: «Няўжо памыліўся ў чалавеку?».

Прыкладна праз гадзіну-другую Віктар прыйшоў у майстэрню і ціхенька, нібы нічога не здарылася, папрасіў у Чыстабаева даць яму работу.

Калі заданне было выканана, і матор, нарэшце, запрацаваў, брыгада выйшла на вуліцу. Віктар сказаў таварышам:

— Дзень нараджэння ў мяне сёння...

— Колькі год споўнілася? — запытаў брыгадзір.

— Васемнаццаць, — адказаў юнак і паглядзеў вінаватымі вачыма на таварышаў.

Хлопцы абступілі сябра. Адзін пацягнуў яго за вушы, другі добра стукнуў па спіне, а брыгадзір моцна паціснуў руку рабочага.

— З днём нараджэння цябе, Віктар...

Брыгадзір уклаў у гэтыя словы асаблівы сэнс і вельмі хацеў, каб хлопцы без тлумачэння зразумелі яго. Развітваючыся, ён яшчэ раз сказаў:

— З днём нараджэння!

На наступны дзень Сямён Арцёмавіч задаволена расказваў парторгу:

— Рыхтаваўся хлапец дзень нараджэння адзначаць, сваякі прыйшлі. А тут непрадбачанае заданне. Загартоўкі яшчэ нашай рабочай няма ў яго: пацягнула дахаты. А потым, потым сумленне загаварыла. Сорамна стала перад таварышамі. Прыбег задыханы. Працаваў добра...

Цяпер ужо Чыстабаеў быў упэўнены, што Віктар апраўдае давер'е калектыву. Хутка ён стаў камсамольцам.

... Прафсаюзны актывіст Сямён Арцёмавіч Чыстабаеў — адзін з актыўных рацыяналізатараў аўтагаспадаркі. Яго прапановы паспяхова выкарыстоўваюцца ў вытворчасці.

Дбайным гаспадаром адчувае сябе ў цэху Чыстабаеў. Другі раз выбіраюць яго ў мясцовы камітэт таварышы. Цяпер Сямёну Арцёмавічу даручылі адказваць за стан тэхнікі бяспекі.

З брыгадзірам Чыстабаевым мы сустрэліся ў адзін з чэрвеньскіх дзён. Ён з ахвотай расказаў аб спаборніцтве калектыву ў гонар XXII з'езда КПСС, аб творчай ініцыятыве брыгад камуністычнай працы. Калі развітваліся, Сямён Арцёмавіч сказаў:

— Можаце павіншаваць. Здзейснілася мара майго жыцця. Я стаў камуністам.

Ён пры гэтым дакрануўся да грудзей, дзе ля сэрца ў кішэні пінжака ляжаў дакумент радавога ленінскай партыі.

**Міхась БУРЫ.**

## У ДАПАМОГУ УНІВЕРСІТЭТАМ КУЛЬТУРЫ

**Канторы і аддзяленні кінапракату атрымалі і рассылаюць кінаўстановам рэспублікі шмат новых фільмаў па мастацтву.**

**Творчасці выдатнага рускага мастака-акварэліста Мікалая Бястужава прысвечана каляровая навукова-папулярная кінакарціна «У глыбіні сібірскіх руд...» У фільме расказваецца пра бяспрыкладны подзвіг мастака-дзекабрыста, які ў цяжкіх умовах сібірскай катаргі стварыў галерэю партрэтаў сваіх таварышаў па паўстанню і ссылцы.**

**З каляровай кінакарціны «Скарбы аружэйнай палаты» гледачы даведваюцца аб творах рускага прыкладнога і дэкаратыўнага мастацтва XII—XIX стагоддзяў, якія знаходзяцца ў Дзяржаўнай аружэйнай палаце Маскоўскага Крамля. Тут захоўваюцца выключныя па прыгажосці і тэхніцы залатыя і сярэбраныя прадметы, што ўжываліся ў палацах і царквах, створаныя рукамі народных майстроў-умельцаў.**

**З цікавасцю будзе прагледжаны англійскі хранікальна-дакументальны фільм «Апавяданні пра Бернарда Шоу».**

**Каляровы фільм «Свята тканін» раскажа пра выстаўку тканін у Цэнтральнай выставачнай зале Масквы.**

**Р. ЗАЙЦАЎ.**

# УСІМ СЭРЦАМ СЛУХАЦЬ НОВАЕ

## Наш сучаснік у жыцці і мастацтве

Верш хвалюе чытача тады, калі ён адпавядае ладу яго думак і перажыванняў, калі ў мысленні паэта ёсць нешта агульнае з мысленнем чытача.

Лірычны герой нашых маладых паэтаў — аднагодак пакалення, дзяцінства якога было азмрочана вайной. Ваенныя ўражанні пакінулі ў памяці пакалення глыбокі след, наклалі адбітак на фармаванне яго светапогляду ў пасляваенны час. Маладыя паэты перажылі гэта разам са сваімі аднагодкамі.

**Мы не давяралі ночы сіняй,**
**Уздрыгвалі, як хруснуць дзе дубцы,**
**І з юнкерсаў падбітых алюміній**
**Ламалі для дзяўчат на грабянцы.**
**Мы прызнаваліся сваім любімым**
**І службу ўжо дарослую няслі.**
**Стаў новым свет, а губы пахлі дымам,**
**Бо мы з снарадных конавак пілі.**
**(С. Гаўрусёў).**

Маладым паэтам, як і іх равеснікам, давялося адчуць горыч вялікіх страт, якія па-дарасламу, да канца, асэнсаваны, можа, толькі сёння:

**З пустым рукавом сын вярнуўся дамоў.**
**А маці,**
**як яблыня, белая**
**з гора.**
**Здаецца мне,**
**порахам пахне ізноў...**
**Вы чуеце, хлопцы**
**з палаты мінёраў?!**
**(Р. Барадулін).**

Так, цяжкім быў пачатак біяграфіі пакалення, і маладыя паэты, абапіраючыся на свой душэўны вопыт раскрываюць усё гэта ў вершах перад сваім аднагодкам-чытачом. Але біяграфія пакалення працягваецца. Пачатак актыўнага ўдзелу ў жыцці краіны супаў з тэхнічным прагрэсам, з эпохай атама, электронных машын і штучных спадарожнікаў, з перыядам будаўніцтва камунізма. І ўсё гэта патрабуе свайго адлюстравання.

Сённяшні дзень нашай паэзіі адмаўляе паэтыку, якая дазваляе даць толькі **агульную** карціну перажыванняў. Сёння трэба паспець за ходам думкі, за імгненнымі паваротамі ў мысленні, за адценнямі ў настроі. Сёння паэзія імкнецца да паглыбленага лірызму, паказу непаўторнай чалавечай індывідуальнасці. Каб перадаць светаадчуванне сучасніка, трэба шукаць новых спосабаў паказу жыцця, адпаведнасці выяўленчых сродкаў складанаму ўспрыняццю свету сучасным чалавекам.

Паглядзім на прыкладзе творчасці двух здольных нашых паэтаў — Р. Барадуліна і С. Гаўрусёва, як вядзе пошукі новага маладая паэзія, якія ўдачы і няўдачы спасцігаюць яе на гэтым шляху.

У Р. Барадуліна ёсць такія вершы, як «Бацьку», «Калаўроты», «Калыска», «цалінная» нізка, якія трывала ўвайшлі ў свядомасць чытача і ўзбагацілі яго духоўны свет. Яркае вобразнае мысленне і высокая творчая культура ўласцівы вершам паэта. Мы можам назваць па памяці не адзін дзесятак радкоў, якія ўразілі нас то здзіўляючай дакладнасцю параўнання, то яркай мастацкай дэталлю, то ўменнем усхваляваць сілай пачуцця.

**Валун у шрамах бліскавіц –**
**Унукам метэарытавым.**
**Тут ракушкі перлавіц —**
**Гадзіннікамі раскрытымі.**
**Рака ўся — тугі калчан —**
**Яршамі, як стрэламі, колецца.**
**Буслянка, як каланча,**
**Адна**
**над усёй ваколіцай.**
**(«Пціч»).**

Не можа не радаваць вобразнае багацце гэтых радкоў. Калі ж ісці далей першага ўражання, то бачна, як пісаў нядаўна Р. Бярозкін, што такі верш складаецца з «разгорнутых, як ланцужок, асобных вобразаў, маляўнічых, яркіх і сакавітых, але недастаткова апладнёных адзінай лірычнай думкай, цэласным светаадчуваннем: што ні радок, дык новая ўспышка, новы ўсплёск». Яго вершы апошняга часу, як адзначае Р. Бярозкін, сведчаць, што Р. Барадулін, які заўсёды ўмеў бачыць **паэтычна**, пачынае гэтак-жа паэтычна **думаць** (усюды падкрэслена Р. Бярозкіным.—**В. Б.**). Але, як нам ўяўляецца, бяда ў тым, што Барадулін-паэт думае недастаткова па-сучаснаму. Ён у пэўнай ступені сучасны па смеласці падыходу да «традыцыйных» тэм, да рытму і г. д., але гэтым і абмяжоўваецца. Сучаснасці адчування, шырыні погляду на рэчы, знітаванасці вобразна-канкрэтнай асновы верша з эмацыянальным успрыняццем карціны, рэчы, настрою, думкі — усяго гэтага, калі не разам, дык паасобку, часта не хапае многім вершам Р. Барадуліна. Вось вам яркая карцінка — вобразная, смелая, але і толькі:

**Тут у ноч чарэмхавую, белую**
**Ходзіць май сп'янелы, сам не свой,**
**І ад салаўёў асалавелая,**
**Поўня круціць круглай галавой.**
**Тут бярозы каркаюць і крахкаюць,**
**Глухнуць ад птушынае гурмы.**
**Кожны гром — лагоднейшы характарам —**
**З полацкае станцыі**
**Грамы!**
**(«Станцыя Грамы»).**

І хоць зроблена гэта беззаганна і словы зіхацяць, іграюць, усё ж ясна, што пераасэнсаванне «традыцыйных» вобразаў — не самы дзейсны сродак паказу сучаснасці ў паэзіі. У прыведзеных радках няма канкрэтнасці перажыванняў, няма, па сутнасці, паэтычнай думкі, а толькі вобразнасць дзеля вобразнасці.

Нядаўна Барадулін надрукаваў новы верш «Трэба дома бываць часцей»:

**Трэба дома бываць часцей,**
**Трэба дома бываць не госцем,**
**Каб душою не ачарсцвець,**
**Каб не страціць святое штосьці!**
**Не забыць, як падвялы аер**
**На падмытай падлозе пахне,**
**Як у студню цыбаты асвер**
**Запускае руку да пахі...**

І зноў жа: дзе думка? нейкай застарэласцю, адвечнасцю адчуванняў павявае ад гэтых радкоў, у якіх не цяжка знайсці ўсё тое, за што абрушваюцца крытыкі на Ул. Караткевіча («О, мой адвечны край»).

Змяняецца жыццё — змяняюцца і спосабы яго адлюстравання, сам падыход да жыццёвых з'яў становіцца іншым.

У гэтым сэнсе характэрная, на маю думку, паэзія С. Гаўрусёва. У яго — яркае, вобразнае мысленне. Ён можа ўбачыць «кляновы ліст далонню хлебароба», заўважыць, як месяц з-за хмаркі выглядвае «забытай падкоўкай з салдацкага бота», знайсці трапную дэталь — «істужкі салдацкіх абмотак пакроены ўсе на бінты»... Часам яго вершы (за блізкасць у вобразным мысленні і манеры пісьма) можна палічыць за барадулінскія:

**А грады — рай. Крамяны агурочак,**
**З жаўтлявай паласой уздоўж спіны,**
**Глядзіць піскляняткам. З сарака сарочак,**
**Засопшыся, вылазяць качаны.**
**Сланечнік — франт, здаецца, п'яны троху, —**
**Хістаецца ў бакі ад вецярка.**
**Гарбуз, самлеўшы, выпаўз на дарогу**
**З закручаным хвастом, што ў парсюка...**

Але ў С. Гаўрусёва значна большая суаднесенасць зместу з сённяшнім днём, большая знітаванасць думкі і вобраза, карціны і перажывання. Паэт імкнецца адлюстраваць дыялектыку душы свайго сучасніка, рухомасць яго псіхікі, выкарыстоўваючы як мага больш асацыяцый у вобразах, у псіхалагічных дэталях.

**Хай лягчэйшым яшчэ тваё стане дыханне,**
**Хай аб дзівах зямных табе шэпчуць лісты.**
**Ты прыйшло да мяне неўспадзеўку, каханне,**
**Як прыходзіць сасмягламу шклянка вады.**
**У жыцці не такі я ўжо быў недарэка,**
**Хоць смяўся хто-небудзь з сяброў: не лайдач!**
**У грудзях замірала бяскрылае рэха**
**І турбот непатрэбных, і горкіх няўдач...**
**Як азонам, паветра табою напоўнена,**
**Хай яно разальецца над шарам зямным,**
**Бо жывем мы шчасліва — пра гэта я помню!—**
**Не пад дахам адным, дык пад небам адным!**

Паэт чуйна схоплівае тыя новыя перажыванні, якія народжаны нашым імклівым часам, імкнецца ўвасобіць іх у паэзію:

Цяпер тут ціха. Адно лунаюць
Чародкі мірныя галубкоў...
У далях столькі святла-сінечы:
Дыхнуць баюся — страсеш расу.
І груз цяжэзны мне лёг на плечы.
Ці данясу ж я? Ці данясу?
(«Севастопаль»).

Менавіта Гаўрусёў здолеў напісаць паэму, у якой паказана фармаванне характару сучасніка ў жыццёвай плыні. Паэма «Штодзённы лістапад» стала значным дасягненнем усёй нашай паэзіі, бо вызначаецца маштабнасцю лірычнага героя, радасці і трывогі якога ўласцівы цэламу пакаленню. На першым плане ў паэме як быццам каханне лірычнага героя:

**Калі ты блізка — звонка адгукніся.**
**Калі далёка, да мяне прыйдзі,**
**Павек стамлёных ціха дакраніся**
**І, як раней, у вочы паглядзі.**

Каханне паказана праз адценні і змены настрояў (жывое і складанае развіццё дум і пачуццяў, наогул, характэрна для вершаў Гаўрусёва):

**Цябе я пільна ў далях выглядаю,**
**Хоць ластаўкай на мокрых правадах**
**Адшчабятала лета,—і гадаю,**
**Аб чым бубніць бляшаны гулкі дах.**
**Мне хочацца адчуць твае далоні,**
**Расслухаць голас скрозь асенні свіст.**
**Ды што казаць — і на бязлістым клёне,**
**Як сэрца, б'ецца адзінокі ліст.**

Свабодная плынь паэмы ўбірае ў сябе багацце разнастайных матываў. Праз лірычныя адступленні і ўспаміны праз твор праходзіць другая тэма — гісторыя пакалення:

**Я б не хацеў трывожыць успамінаў,**
**Але ў дзяцінстве — з дзесяці гадоў! —**
**Буханак менш мы бачылі, чым мінаў,**
**Варожых гільзаў больш, чым жалудоў.**

Роздум над сённяшнім жыццём пакалення, як і над яго гісторыяй, для лірычнага героя паэмы — крыніца маральнага і ідэйнага росту. «Хай лістапад шуміць у кожным сэрцы, скідаючы пажоўклыя лісты».

С. Гаўрусёў добра разумее, што паэзія тады можа стаць сучаснай па пачуццю і па думцы, калі яна сучасная і па мове. Мы ведаем, наколькі гнуткім матэрыялам становіцца мова ў Р. Барадуліна. Але ён карыстаецца словамі тых лексічных пластоў, якія адстаяліся ў мове і звязаны больш з бытавым стылем. С. Гаўрусёў жа імкнецца асвоіць новую лексіку, хоць гэта яму і не заўсёды ўдаецца («Голыя сады, як пад рэнтгенам, цямнеюць цьмяна рэбрамі галін», «Няхай гарматы ствол незачахлёны шукае новых зор, як тэлескоп», «фініш небасхілу з разгону расхінула ты грудзьмі».) Аднак магчымасць няўдачы не палохае С. Гаўрусёва.

Чытач чакае ад паэтаў-аднагодкаў нашых касманаўтаў глыбейшага пранікнення ў сучаснасць. Для гэтага неабходны і веданне жыцця, і смялейшыя творчыя пошукі.

**Наш герой цяпер не ў цёмным лесе,**
**Трэба новы вобраз і настрой.**
**Б'ешся, б'ешся, а ў радок не лезе**
**Нават самы прасценькі герой.**
**Ён то просты, ды складаней тэма, —**
**У якую мы забеглі даль!**
**Беларускі хлопец ля мартэна**
**Чарадзеем ходзіць, варыць сталь, —**

пісаў П. Панчанка, які няспынна шукае гэтых новых сродкаў.

«Пакуль не прымільгалася рэчаіснасць, пакуль не ўстанавіліся законы бясспрэчнасці з'яў для дадзенага пакалення, — гаварыў М. Асееў, — маладосць заўсёды шукае і часцей усяго знаходзіць якіясьці свае сродкі адлюстравання сучаснасці. Але для гэтага маладосці самой патрэбна добра заняцца пераглядам звычайных поглядаў, густаў, звычак... Трэба асмеліцца выйсці з гэтай аднамернасці, паспрабаваць паказаць і рэчаіснасць неаднамернай...»

Да гэтых слоў варта прыслухацца.

**В. БЕЧЫК.**

**Піліп ПЕСТРАК.**



# У ДАРОЗЕ

**УРЫВАК З ДРУГОЙ КНІГІ РАМАНА «СЕРАДЗІБОР»**

Вестку аб тым, што ў Міхасёвага бацькі—Гойдалы-Гайдалевіча здохлі цялушка і нейчы чужы конь, прынесла капітану Рыбіну ўрач Вера Ігнатаўна Лукашэвіч. Яна ўсё ж такі выканала даручэнне капітана Рыбіна — з'ездзіла ў Серадзібор. Пагаварыла ў сельсавеце з Карчэняй пра свае справы — каб да вясны бярвенне для незакончанай бальніцы было вывезена з лесу. Потым зайшла ў чайную... І вось так, таксама, як тады ўвосень, напаткала старога Несцера, які звярнуўся з той жа просьбай — палячыць жонку, старую Тэклю, якой стала горш. Хацеў стары везці хворую ў Азярышча — ды ўсё халады не давалі. А тут якраз прыехала сама доктарка.

— Моцны раматус у яе, — сказала Вера Ігнатаўна, — трэба ў бальніцу, ванны...

Аднак пайшла, паглядзела старую. Паставіла ёй тэрмометр пад паху, а сама тым часам прайшлася па хаце, разглядаючы сцены. Даткнулася пальцам да ястраба, што ўзняў пры сцяне крылле для лёту, хвілінку палюбавалася ім, потым наблізіла да вачэй ручнік, які вісеў побач, паглядзела на вышыўкі і спынілася перад фатаграфіямі пад шклом у чорнай рамцы. Там яе ўвагу прыцягнуў малады чалавек, сфатаграфаваны ля стала з вазонам кветак. Аблакаціўшыся на стол, падпёр шчаку рукою. Фотаапарат адбіў краечак палічак з кніжкамі. Чымсьці ўтульным павеяла на Веру Ігнатаўну ад гэтага здымка. У глыбіні, за спіною маладога чалавека, густа цямнеў фікус, што яшчэ больш надавала гэтаму кутку прывабнай утульнасці.

Вера Ігнатаўна адзін раз бачыла ўжо гэтага маладога чалавека — тады ён размінуўся з ёю на парозе вось гэтай Несцеравай хаты. А яна пагледзела яму ўслед...

З фотаздымка глядзеў на Веру Ігнатаўну Платон Грушка, глядзеў з кутка серадзіборскай матчынай хаткі, не маргнуўшы, спакойна, засяроджана, а праз твар прасвечвала прытоеная ўсмешка. Вера Ігнатаўна адвяла вочы ад здымка і ўспомніла, што трэба вымаць з-пад пахі старое Тэклі тэрмометр. Потым яна выстуквала старую, услухоўвалася ў скрыпы, уздыхі, адзначала тую грань, ад якой сходні жыццёвай лесвіцы вялі ўніз.

— Вам трэба бальніца, — сказала Вера Ігнатаўна.

— Ды дзе ж яна ў нас, мая саколка? Каб яна была тут у Серадзіборы, тады... А да Азярышча далёка. Дый холад.

— Я вам прапішу націранне, парашкі... Трохі паможа.

Увайшоў стары Несцер з міскай квашанай халоднай капусты ў адной руцэ, а ў другой—з талеркай нарэзанага мёрзлага сала. Паставіў усё на стол, сказаўшы: «Недзе разышліся ўсе»... і падыбаў назад за коўдравую перагародку, адкуль хутка прынёс на талерцы хлеба і відэлец. Вера Ігнатаўна гэтага не бачыла. Старая Тэкля раптам крыкнула, нібы хто яе ўкалоў:

— Талерачкі ў шафачцы ў сенцах! Толькі глядзі, не пабі збаночка з яечкамі!

Ад такога Тэклінага выкрыку Вера Ігнатаўна сцепанулася. Потым ёй захацелася засмяяцца, але яна толькі ўсміхнулася, і гэтая ўсмешка ўжо доўга не сходзіла з яе вуснаў. Яна падумала— што там такое робіцца?

У хаце моцна запахла капустай. Вера Ігнатаўна не звярнула на ўсё гэта ніякай увагі.

Выслухоўванне скончылася. Вера Ігнатаўна паклала свае лекарскія прылады ў невялічкі чамаданчык і дастала адтуль самапіску і блакнот. Трэба ж напісаць рэцэпт. Яна прысела да стала. Мімаходзь зірнула на яду, пастаўленую Несцерам. З-за перагародкі выйшаў сам стары са спатнелай ад холаду бутэлькай зачырвоненай гарэлкі ў руцэ.

— Вы што — відаць, гасцей чакаеце? — спыталася Вера Ігнатаўна.

— Вы ў нас наймілейшая госця. Вось перакусіце трошкі, што бог паслаў, як кажуць,—прамовіў Несцер. — Кіньце пісаць, напішаце потым.

Вера Ігнатаўна аж пачырванела ад такой нечаканасці і пачала, як магла, адмаўляцца:

— Я не галодная, нядаўна ела ў чайной, дзякую вам... Не, не...

Але стары Несцер быў няўмольны. А тут яшчэ далучылася да яго і Тэкля. Вера Ігнатаўна адчула, што адмаўляцца далей ужо нельга. Будзе вялікая крыўда для старых. Згадзілася і пайшла за перагародку памыць рукі. Потым села за стол, чарачку нават выпіла, ела ў смак капусту і сала. І ўсё хваліла, а Тэкля аж пакрэктвала ад задавальнення, варочаючыся ў ложку.

Вера Ігнатаўна потым вяла гутарку пра бальніцу ў Серадзіборы. А Несцер выкрываў ёй сакрэты, чаму не хапіла бярвення на бальніцу.

— Міхась Гойдала... Ляснік... Яго работа. Усё аддаў Вераб'ю на хату. Так яму патрэбна хата... Яшчэ ў гэтай можна жыць.. Што ты зробіш, міленькая, з нашымі такімі людзьмі?

Вера Ігнатаўна слухала, толькі не хацела выказваць сваіх меркаванняў, баялася, каб у чым не прагаварыцца. Каб перавесці гутарку на другое, яна, пачуўшы прозвішча — Гойдала, спыталася:

— А дзе жыве гэты Гойдала? У мяне да яго ёсць справа.

— Сам стары, кажуць, захварэў, а сын-ляснік больш у лесе. Жыве ў лясніцтве. Часам прыходзіць і дахаты.

— А як у вас з яшчурам?

— На нейкае шчасце, мінуў ён нас. Прыязджалі сюды і Бабёр, і Рыбін... Стараліся... Толькі вось днямі ў гэтага самага Гойдалы здохла цялушка, і пагаворваюць, што ў яго нехта начаваў з канём і што нібы гэты конь здох... Гойдала тут у сяле не жыве.

— А дзе? — нібы спалохаўшыся, спыталася Вера Ігнатаўна.

— Ён не адсюль. Туды, па дарозе да Забівачак.

Вера Ігнатаўна глянула на гадзіннік.

— Мне трэба спяшацца. Ой, як жа я забавілася!.. Выбачайце... Дзякую за пачастунак.

Вера Ігнатаўна яшчэ раз расказала Тэклі, як прымаць лекі, і папрасіла Несцера:

— Вы ўсё ж хоць трошкі пакажыце мне дарогу на Забівачкі. Я праязджала праз іх толькі раз, і то вясною. А цяпер дарогі замяло...

— Я магу вас нават давесці да яго хаты.

Так і прывёў Несцер Веру Ігнатаўну да самай Гойдалавай хаты.

Пасляабедзенная шэрасць дня пачала гусцець — павольна наплываў вечар. Стары Несцер у хату да Гойдалы не пайшоў, а, тулячыся ля глухой сцяны, падаўся на агароды к лесу. Там знайшоў яму, засыпаную толькі да палавіны. Калі прыглядаўся, прыгнуўшыся над ямай, заўважыў высунуты з-пад пяску конскі капыт. Падумаў: «Значыць, праўда, што конь здох... А чый конь?» Несцер задумаўся. «Нават не засыпалі як след... Можа што перашкодзіла?..»

Вера Ігнатаўна ў гэты час вяла гутарку з Васілём Гойдалам, які сядзеў, прытуліўшыся спіною да печы.

— ...Я чула, што вы захварэлі на нейкую заразную хваробу. Мой абавязак—праверыць і ліквідаваць хваробу, каб яна не перанеслася на другіх.

— Не, — аднекваўся Васіль Гойдала, — бог мілаваў, яшчэ ходзім.

І змаўкаў — выразна баяўся больш чаго гаварыць. Вера Ігнатаўна заўважыла гэтую яго боязь, і ў свядомасць яе закралася падазрэнне.

— Паколькі я ўжо зайшла да вас, давайце праверу. Гэта не пашкодзіць. Я вам пастаўлю тэрмометр...

Вера Ігнатаўна адчыніла чамаданчык і вyняла адтуль тэрмометр.

Васіль Гойдала дзіка сачыў вачыма за доктаркай.

— Не трэба... Не трэба... Я здаровы, — адмахваўся рукамі, адпрошваўся стары Гойдала.

Гойдаліха, якая ляжала на печы, павярнулася са спіны на бок і ўтаропіла вочы ў бліскучую цацку ў руцэ доктаркі.

— Вы яго яшчэ прапораце,—прамовіла яна панура.

— Няўжо вы ніколі не бачылі тэрмометра?— пыталася Вера Ігнатаўна.

— А дзе нам бачыць? — прахрыпеў стары. — Нам не было часу на гэта, дый да нас ніхто не прыходзіў.

— А вось я прыйшла. Хіба гэта дрэнна? Прыйшла палячыць вас. А можа, у вас тыфус? Дайце, я гляну на вашу спіну. Можа, там высыпка ёсць?

